наша свабода

№19 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 КРАСАВІКА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# «Чарнобыльскі Шлях» – народнае адзінства

**По вуліцах беларускай сталіцы 26 красавіка прайшоў «Чарнобыльскі Шлях-2000». Ён стаў самай масавай акцыяй беларускіх дэмакратычных сілаў апошніх гадоў. У акцыі, па самых сціплых падліках, узяло ўдзел больш за 40 тысяч чалавек.**

Іван БАБІЧАЎ

**Людзі выйшлі на вуліцы Мінска, нягледзячы на ўсе намаганні ўладаў, якія пастараліся не дапусціць масавасці акцыі. Міліцыя затрымлівала распаўсюджвальнікаў улётак і незалежных газетаў, што ўтрымлівалі інфармацыю аб акцыі, праводзіла канфіскаванне друкаванай прадукцыі ў офісах актывістаў. У рэшце рэшт, пайшлі на грубае парушэнне закона: гарадскія ўлады далі дазвол на правядзенне акцыі літаральна за суткі да яе пачатку, а не за пяць дзён, як мае быць. Гэта, на думку арганізатараў, істотна перашкодзіла распаўсюджванню інфармацыі пра дазволены характар шэсця, і, у выніку, як мінімум палова патэнцыйных удзельнікаў Шляху на акцыю не пайшлі.**




Фота Ул.ШЛАПАКА

«Мы – народ! Мы пераможам!» Гэтыя два лозунгі працягнуліся праз усю плошчу Якуба Коласа падчас збору ўдзельнікаў Шляху.

Ход акцыі асвятлялі здымачныя групы з Чэхіі, Расіі, Германіі, міжнародныя тэлеканалы, а таксама друкаваныя выданні і інфармацыйныя агенцтвы. Перад пачаткам руху кіраўнік мінскай міліцыі генерал Тарлецкі сказаў, што зараз яго непакоіць толькі надвор'е і ён упэўнены, што акцыя пройдзе мірна.

Днём 26 красавіка на плошчы Бангалор прайшоў афіцыйны мітынг. На яго ўлады па разнарадцы сагналі паўтары тысячы чалавек. Некаторыя з іх прыехалі на плошчу Якуба Коласа, каб прыняць удзел у шэсці апазіцыі.

Да 18 гадзінаў на плошчы сабралася ўжо каля 20 тысяч чалавек. Галаву калоны сфармавау прэзідэнт фонду «Дзецям Чарнобыля» Геннадзь Грушавы з удзельнікаў дзіцячага фэсту мастацтваў, правядзенне якога ўлады днямі забаранілі. Больш за сто дзяцей апранутыя ў беларускія нацыянальныя касцюмы. Яны неслі шмат транспарантаў з назвамі раённых цэнтраў і ступенню іх забруджвання радыяцыяй.

Разгарнулі свае плакаты сябры Антыфашыстоўскага дзеяння, якія традыцыйна прыязджаюць на Шлях з 1997 года. У 1998 годзе яны былі арыштаваныя за тое, што неслі вялікі плакат з карыкатурай Лукашэнкі. Антыфашыстоўцы прыязджаюць на Шлях по запрашэнні Хартыі'97. Маскоўскія антыфашыстоўцы неслі велічэзны плакат «Твой режим обречен!».

Наперад вынесеная вялікая ікона Божай Маці – патронкі Беларусі, за ёй — Звон Смутку.

Калону ўзначальваюць вядомыя беларускія палітыкі Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Людміла Гразнова, Юры Хадыка і іншыя. Побач з імі ідуць родныя беларускіх палітзняволеных і зніклых без вестак грамадскіх дзеячаў, родныя Генадзя Карпенкі.

Шлях пачаўся.

Пасля таго, як калона пайшла з плошчы Якуба Коласа, міліцыя затрымала на ёй каля 10 чалавек, якія не паспелі пайсці разам з усімі. Праз некаторы час іх адпусцілі. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **3 траўня на мемарыяльным комплексе Курская Дута ў Белгарадскай вобласці сустрэнуцца адразу тры кіраўнікі дзяржаваў: расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін, украінскі прэзідэнт Леанід Кучма і Аляксандр Лукашэнка.** Яны возьмуць удзел у цырымоніі адкрыцця мемарыяла «Звон Яднання», што прысвячаецца 55-годдзю перамогі ў Другой сусветнай вайне.

■ **Сельскагаспадарчыя прадпрыемствы атрымаюць ад дзяржавы таварны крэдыт у памеры 60 тысяч тон дызельнага паліва і 20 тысяч тон аўтамабільнага бензіну – на ўмовах вяртання гэтых нафтапрадуктаў да 31 снежня 2000 года, паведамляе агенцтва БелаПАН.** Адпаведнае распараджэнне аддаў Савет міністраў Беларусі. З дапамогай таварнага крэдыту ўрад спадзяецца вырашыць праблему дэфіцыту паліва ў калгасах і саўгасах падчас ужо распачатай пасяўной кампаніі. Нафтапрадукты будуць адпушчаныя абласным прадпрыемствам і аб'яднанням па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні аграпрамысловага комплексу, якія ў сваю чаргу выдзеляць паліва калгасам і саўгасам.

■ **26 красавіка ў нямецкім горадзе Нінбургу адкрыўся помнік ахвярам тэхгенных катастрофаў «Чарнобыльская мадонна». Пра гэта паведамляе агенцтва БелаПАН.** Аўтарамі скульптуры з'яўляюцца віцебскія мастакі Іван Казак і Валерый Рыбакоў. Расходы па яе стварэнні нямецкі бок узяў на сябе. Ідэя ўстаноўкі «Чарнобыльскай мадонны» ўзнікла чатыры гады таму — падчас аднаго з наведванняў дэлегацыяй Нінбурга беларускага горада-пабраціма – Віцебска.

■ **У Італіі паліцыя арыштавала найбуйнейшую партыю папулярнага наркотыка «экстэзі».** «Ураджай» рэйду – 300 тысяч таблетак, якія каштавалі б на «чорным рынку» больш за 5 мільёнаў долараў. Наркотыкі перавозіліся ў аўтамабілі.

## На Дзень працы трэба працаваць

Аляксей СТАЎСКІ

Як прадстаўнікам апазіцыйнай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), так і афіцыйным прафсаюзам было забаронена ладзіць першага траўня, у Дзень працы, дэманстрацыю. Сацыял-дэмакратам, праўда, дазволілі правесці мітынг на плошчы Бангалор, але ў гэты дзень, а гэта будзе панядзелак, у Мінску абыдзецца без масавых акцыяў. БСДП(НГ) вырашыла адкласці сваю заяўку, бо праводзіць мітынг на Бангалоры сэнсу, на думку сацдэмаў, няма.

Яны ж, беларускія сацыял-дэмакраты, прынялі заяву, дзе заклікаюць усіх прыйсці 14 траўня, у пятую гадавіну сумнавядомага рэферэндуму па мове і сімволіцы, і прагуляцца па Кастрычніцкай плошчы з парнай колькасцю кветак, як бы адзначаючы жалобу.

Чаму ж не будзе ў Мінску традыцыйных першатравеньскіх шэсцяў, нават пад чырвона-зялёнымі сцягамі? Як вядома, у гэтым годзе вялікая частка нават афіцыйных прафсаюзаў адмовілася ўдзельнічаць у святкаваннях Дня працы пад сцягамі ўлады. Напэўна, гэтая ўлада і не пажадала арганізацыяй свайго шэсця легалізаваць звычайную акцыю апазіцыі.

Але між тым па Беларускім тэлебачанні ва ўсю заяўляюць пра тое, што ўсе святы адбудуцца 9 траўня, у дзень 55-ай гадавіны перамогі у Вялікай Айчыннай вайне. Абяцаюць вялікі парад і гулянні ў самым цэнтры горада, на Кастрычніцкай плошчы. Але ж на дзевятае траўня прыходзіцца і традыцыйна, на афіцыйным узроўні, адзначаемае ў нашай краіне рэлігійнае праваслаўнае свята памінання ўсіх памерлых – Радаўніца. ■

## «Народы Свету» пад забарону!

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Беспрэцэдэнтную цынічнасць прадэманстравалі напярэдадні 14-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС беларускія ўлады. За дзень да афіцыйнага адкрыцця быў забаронены арганізаваны беларускім дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля» і маладзёжнай асацыяцыяй «Майстэрня будучыні» дзіцячы фестываль-конкурс «Народы Свету». У ім меркавалі прыняць удзел маладзёжныя цэнтры з беларускіх гарадоў, блізкіх да забруджанай зоны, усяго больш за 250 чалавек. У праграме фестывалю былі па дзве конкурсныя праграмы, прысвечаныя краіне-партнёру па гуманітарным супрацоўніцтве і свайму гораду ад кожнай «каманды». Абурэнне ўладаў, відаць, выклікаў той факт, што ўдзельнікі, арганізатары і госці свята асобным пунктам свайго плана пазначылі ўдзел 26 красавіка ў мерапрыемстве «Чарнобыльскі Шлях-2000» асобнай калонай. Каб не дапусціць гэтага, верагодна, і быў забаронены фестываль, да якога, дарэчы, дзеці рыхтаваліся апошнія паўгода. Ды многія з іх ужо проста прыехалі ў Мінск, а іх тут так «абламалі». Дзеля ўласных аўтарытарных амбіцыяў – проста ўзялі і пакрыўдзілі і без таго пакрыўджаных лёсам дзяцей з забруджаных гарадоў.

Дзеці ў знак пратэсту супраць адабранага ў іх свята наладзілі 25 красавіка каля ўваходнай брамы таго лагера адпачынку, дзе мусіў праходзіць фестываль, невялічкую акцыю пратэсту. Яны прыйшлі з плакатамі «Нас туды не пусцілі!» і «Чарнобыльцы пад забаронай?» Пазней быў выкарыстаны варыянт правядзення мерапрыемства ў цэнтры горада, у адным з клубаў па вуліцы Няміга. ■

Наступны нумар газеты выйдзе **у сераду 3 траўня**

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 950**

# «Чарнобыльскі Шлях» – народнае адзінства


Фота Ул.ШЛАПАКА

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Над калонай лунаюць нацыянальныя сцягі і сцягі дэмакратычных партыяў.

У сярэдзіне калоны еўрапейскі сцяг памерам 5x3 метры. Малады Фронт нясе расцяжку са сваёй сімволікай. У калоне і вакол яе – шматлікія міжнародныя назіральнікі. Людзі выгукваюць лозунгі «Жыве Беларусь!», «Незалежнасць» і іншыя.

Па дарозе да дэманстрантаў далучаліся ўсё новыя і новыя людзі. Іх колькасць перавысіла 40 тысяч чалавек.

Безумоўна, «Чарнобыльскі Шлях-2000» стаў самай масавай акцыяй беларускай апазіцыі апошніх гадоў. Стала вядома, што Лукашэнка ў час свайго ваяжу ў Гомельскую вобласць усяляк абражаў будучых удзельнікаў «Чарнобыльскага Шляху», называючы іх кучкай адшчыпенцаў. Тут на акцыі бачна, што на вуліцы выйшаў народ. Калона вельмі разнастайная па сваім складзе. Тут і моладзь, і пенсіянеры, і прадстаўнікі інтэлігенцыі, бізнесоўцы.

Прыкладна а 20-ай гадзіне на плошчы Бангалор пачаўся мітынг. Слова бяруць палітыкі «новай хвалі», якія вітаюць усіх, хто прыйшоў на акцыю. Яны выказваюць захапленне людзям, якія выйшлі на вуліцы, нягледзячы на ўсе запужванні і высілкі ўладаў не дапускаць масавасці Шляху: «Нас спрабуюць паставіць на калені, але мы прыходзім сюды, каб сказаць «Не! Мы пераможам. Мы – народ!».

У рэзалюцыі мітынгу, у прыватнасці, гаворыцца: «Незалежная і свабодная Беларусь у садружнасці еўрапейскіх нацыяў здольная мінімізаваць наступствы Чарнобыля... Мы патрабуем ад Расіі поўнае кампенсацыі за пакуты беларускага народа ад Чарнобыля... Рэжым, які замест таго, каб ратаваць людзей, зноў прымусіў іх жыць і вырабляць харчовыя прадукты на забруджаных тэрыторыях, – злачынны і мусіць сысці».

З трыбуны таксама паведамілі, што 26 красавіка ў абласных і раённых гарадах – Брэсце, Гомелі, Пінску, Віцебску, Гродне і іншых – прайшлі жалобныя акцыі, удзельнікі якіх узгадвалі Чарнобыль малітвамі і звонам званоў.

Арганізатары акцыі ацанілі яе як сваю перамогу. Улада была вымушаная адступіць пад ціскам апазіцыі і міжнароднай супольнасці і дазволіць шэсце 26 красавіка. На фоне ўсеагульных забаронаў і нагнятання атмасферы страху і падпарадкавання гэта не мала. Шлях – гэта рух да будучыні. Як сказаў з трыбуны мітынгу адзін з выступоўцаў, любая наступная акцыя можа стаць апошняй для гэтага беларускага рэжыму. ■

## Улады не здолелі перамагчы сваю звычку да затрыманняў
### Нават у дзень Чарнобыля

**Даведка праваабарончага цэнтра «Вясна»**

Асноўная частка дэманстрантаў рушыла з плошчы Якуба Коласа ў 18:20, але на плошчы засталіся сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі, якія былі нязгодныя з дазволеным маршрутам. А таксама на плошчы засталіся назіральнікі беларускіх і міжнародных праваабарончых арганізацыяў. Сябры ХКП правялі на плошчы свой асобны мітынг і аб'явілі хвіліну маўчання. У 18:40 на плошчы з'явіліся служачыя ўнутраных войскаў і спецназ, якія сталі разганяць мітынг. На вачах прадстаўніка місіі АБСЕ Георга Віка і назіральніка ПЦ «Вясна» Барыса Гюнтэра быў затрыманы семнаццацігадовы жыхар горада Горкі Андрэй Ануфрыеў. Па папярэдніх звестках ПЦ «Вясна», былі затрыманы непаўналетні Аляксандр Атрошчанкаў, а таксама – Жураўчык Зміцер і Сацупа Андрэй.

Пасля мітынгу на плошчы Бангалор былі арыштаваныя мікрааўтобусы з апаратурай, якія разам з людзьмі, якія знаходзіліся ў іх, былі дастаўленыя ў РАУС Савецкага раёна. Сярод затрыманых з мікрааўтобусамі – Алесь Кавалец (адказны сакратар управы БНФ «Адраджэньне»), Ляпарскі Яўген, Лявон Мірановіч, Кастусь Тамковіч, Артур Лашкевіч, Уладзімір Ражкоў. Бліжэй да дванаццатай гадзіны ночы затрыманых выпусцілі, апаратуру вярнулі.

Усе затрыманыя на працягу некалькіх гадзінаў знаходзіліся ў памяшканні Савецкага РАУС, пры гэтым ніякіх пратаколаў на іх не складалася і прычыны іх затрымання не тлумачыліся.

# Пяць гадоў турмы для Міхаіла Чыгіра
## Пракурор просіць суд ізаляваць экс-прэм'ера ад грамадства

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**У сераду пачаліся спрэчкі на працэсе ў мінскім гарадскім судзе над Міхаілам Чыгіром. Адкрыў « двубой аргументамі» пракурор Віктар Жынгель, які папрасіў суд прызнаць былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра вінаватым па чатырох з сямі эпізодаў абвінавачвання. Тое, што пракурор будзе падтрымліваць абвінавачванне, якое на працэсе відавочна развалілася, не было сюрпрызам для прысутных у судовай зале. Сенсацыяй выглядала наступная заява пракурора: што ва ўмовах свабоднага жыцця Міхаіл Чыгір не можа перавыхавацца, і яго трэба пасадзіць за краты. Паводле пракурора Жынгеля, на перавыхаванне Чыгіру павінна хапіць пяці гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Столькі ў нас даюць некаторым забойцам.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

У чым жа, на думку пракурора, вінаваты былы прэм'ер? У Крымінальным кодэксе кваліфікацыя ягоных «злачынстваў» зроблена ў 167 і 168 артыкулах. Гэта халатнасць і перавышэнне службовых паўнамоцтваў з цяжкімі для бюджэту наступствамі. Пракурор Жынгель лічыць, што Чыгір, калі працаваў старшынёй праўлення Белаграпрамбанка, зарабіў як меншае тры «злачынствы». Па-першае, ён, аказваецца, вінаваты, што банк страціў 40 тысяч долараў, калі адмовіўся ад паслугаў партнёра па будаўніцтве новага офіса. Чыгір называў гэты крок вымушаным і казаў, што інакш банк страціў бы куды больш. Па-другое, быццам бы былы банкір няправільна выдаў крэдыт камерцыйнай фірме БелОСТ, якая яго часткова не вярнула – тут страты больш чым у 700 мільёнаў рублёў. Трэці эпізод тычыцца ўжо мільёна долараў – таго, які быў пералічаны канадскаму партнёру «Лоўрэнс авеню груп лімітэд» на закупку абсталявання для новага офіса, але дагэтуль не вернуты.

Усе доказы Міхаіла Чыгіра, у тым ліку і тое, што гісторыя з прыпыненнем будоўлі новага офіса і невяртаннем грошай адбывалася ўжо калі ён у банку не працаваў, на пракурора не паўплывалі. І нарэшце Міхаіл Чыгір, як перакананы пракурор, злоўжываў сваім службовым становішчам і калі працаваў прэм'ерам. Тут у якасці «злачынства» фігуруе эпізод з прадастаўленнем камерцыйнай фірме «Піаск» адтэрміноўкі ў выплаце мытаў. Маўляў, Чыгір даваў не проста адтэрміноўку, а ільготу, на што права не меў. Да таго ж, сцвярджае пракуратура, ён фактычна прымаў рашэнне самастойна. Аргументы экс-прэм'ера, што рашэнне прымалася на ўрадавай валютна-крэдытнай камісіі, пракуратура адхіляе як неправамоцныя. Віктар Жынгель перакананы, што камісію гэтую Чыгір выкарыстаў як маскіроўку. Пры гэтым пракурор у сваёй двухгадзіннай прамове ніводнага разу не назваў, колькі ж у выніку ўсіх гэтых «злачынстваў» прыдбаў асабіста сабе Міхаіл Чыгір.

Сам былы прэм'ер у першых каментарах пасля выступу пракурора казаў, што яно не выклікала ў яго асаблівага здзіўлення. Бо ён атрымаў канфідэнцыйныя звесткі, згодна з якімі прысуд яму ўжо вызначаны, як і належала чакаць, на самым версе. І таму ў прынцыпе неістотна, хто зачытае вердыкт – пракурор Жынгель ці суддзя Васілевіч праз некалькі дзён. Міхаіл Чыгір яшчэ ў больш жорсткім тоне паўтарае, што ні ў чым не вінаваты і пагодзіцца толькі з апраўдаўчым прысудам. «Калі прысуд будзе абвінаваўчы, ён рана ці позна будзе перагледжаны», – заяўляе экс-прэм'ер.

Дарэчы, яшчэ напярэдадні выступу пракурора абарона Чыгіра прадпрыняла апошнюю спробу заклікаць суд да аб'ектыўнасці і некалькі разоў запар хадайнічала пра дадатковае вывучэнне новых істотных дакументаў і апытанне сведкаў, якія ў суд так і не з'явіліся. Гаворка ішла пра цяперашняга кіраўніка Брэсцкай вобласці Васіля Далгалёва і загадчыка юрыдычнага ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Пласкавіцкага.

Суд аднак гэтыя просьбы з няменшай упартасцю адхіляў, і тады Чыгір і ягоная абарона заявілі пра недавер усяму складу калегіі на чале з суддзём Васілевічам. Той, аднак, недавер сабе і сваім маўклівым памочнікам адхіліў, заявіўшы, што для гэтага няма падставаў. Цяпер на чарзе – выступы адвакатаў Юліі Чыгір і Аляксандра Пыльчанкі ды грамадскіх абаронцаў Барыса Гюнтэра і Гары Паганяйла. Яны могуць справіцца за адзін дзень, і таму не выключана, што ўжо ў пятніцу суддзі скажуць сваё апошняе слова ў гэтым беспрэцэдэнтным шасцімесячным працэсе. ■

**ЗАМЕЖЖА**

## Опасная профессия – друг Милошевича

**Президент Югославии Слободан Милошевич теряет одного сподвижника за другим. Вчера был застрелен гендиректор компании «Югославские авиалинии» Живорад Петрович – друг и земляк Милошевича. Полиция, как и раньше, бессильна. Кто-то всерьез занялся уничтожением ближайшего окружения сербского лидера.**



Живорад Петрович был убит вчера вечером в центре Белграда. Белградское независимое агентство новостей сообщило, что двое неизвестных совершили нападение вскоре после того, как Петрович вышел из дома своих родителей и направился к автомобилю. Свидетели убийства сообщили, что слышали выстрелы приблизительно в 21:30 по местному времени. Киллеры произвели несколько выстрелов, после чего скрылись с места преступления. Одна из пуль попала Петровичу в голову. Он скончался в центральной клинике Белграда, не приходя в сознание.

Белградская полиция назвала убийство террористическим актом, направленным против высокопоставленного чиновника. Место преступления было оцеплено. Оперативно начатый розыск результатов не дал. Мотивы преступления также на настоящий момент не выявлены.

62-летний Петрович был членом партии левых неокоммунистов, возглавляемой супругой Слободана Милошевича Мирой Маркович. Петровича нельзя было назвать видным политиком, но он считался близким другом югославского президента, был родом из того же города, что и Милошевич. О близости убитого к югославскому руководителю говорит и тот факт, что Петрович включен в список деятелей, которым запрещен въезд на территории стран Европейского союза.

Петрович был крупным предпринимателем. В 1992 году он стал генеральным директором государственной компании «Югославские авиалинии». Незадолго до смерти он объявил о планах по приватизации компании, которая испытывала сложности в связи с санкциями против Югославии, введенными Европейским союзом.

Расстрел бизнесмена стал очередным звеном в цепи ежемесячных заказных убийств сторонников президента Милошевича. В январе этого года был застрелен сербский военачальник Зелико Разнатович, известный как Аркан. В феврале – югославский министр обороны Павле Булатович. В марте очередью из автомата был застрелен еще один сербский военный, сподвижник Милошевича, Бранислав Лайнович. И вот в апреле – Петрович. ■

## Доход на душу населения на Украине опустился до 25 долларов в месяц

Показатель среднего ежемесячного дохода на душу населения на Украине, который в 1998 году составлял 37 долларов, за прошлый год опустился еще ниже – до 25 долларов, что соответствует показателям самых бедных государств мира, говорится в докладе Организации Объединенных Наций. Как отмечается в документе, массовая нищета в этой стране превышает любые нормальные пределы. При этом в ходе проведенного Международной организацией труда исследования среди более полумиллиона украинских рабочих выяснилось, что сведения правительства Украины об уровне безработицы в стране (менее 5%) не соответствуют действительности. «Большая часть людей, которые считаются занятыми, на самом деле не имеют реальной работы и не получают зарплаты», – говорится в отчете МОТ. При этом, население страны за последние 10 лет сократилось на 2 млн. человек до порядка 50 млн. человек. Продолжительность жизни среди мужчин сократилась на 3 года – до 62 лет. Как отмечается в докладе, спад промышленности Украины достиг в 1999 году беспрецедентного уровня: загрузка промышленных мощностей составила всего лишь 44%, в то время как в 1995 году этот показатель составлял 66%. ■

## В США ежегодно 30.000 человек гибнет от огнестрельного оружия

По данным Службы здравоохранения США, издержки от случаев нападений с использованием оружия в стране составляют порядка 100 млрд. долл. ежегодно. В эту сумму входят расходы на медицинское обслуживание, по страхованию, оплата последствий потери трудоспособности и расходы на судебные разбирательства. Опираясь на эти данные, американские городские и государственные власти выдвинули за последнее время 31 иск, обвиняя оружейную промышленность Соединенных Штатов в том, что она должна общественности страны миллиарды долларов на покрытие издержек, возникающих в результате преступлений, совершаемых с использованием оружия. Судебные процессы по данным искам оказали огромное влияние на организацию деятельности предприятий оружейной промышленности США. Так, крупнейший производитель оружия в стране *Smith&Wesson* признал свою обязанность контролировать поставки своей продукции на рынок с целью предотвращения попадания вооружения в руки криминальных элементов. Исполнительный директор предприятия Эдвард Шульц пообещал, что компания начнет разработку оружия с более безопасной конструкцией. По последним данным, в США доля погибших от огнестрельного оружия в два раза превышает аналогичный показатель Франции, а в 3 раза – Канады. С помощью оружия в США убивают около 30 тыс. человек в год, и около 60 тыс. человек получают огнестрельные ранения, сообщают зарубежные СМИ. ■

НАКІРУНАК


Фота IREX/ProMedia

# На «Азоце» дамагаліся павышэння заробкаў

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**У Гродне большага прадпрыемства за аб'яднанне «Азот» – няма. Працуе там амаль 7 тысяч чалавек.**

У азотчыкаў заробкі ў горадзе традыцыйна самыя высокія, калі гаварыць аб прадпрыемствах. Два гады таму А.Лукашэнка ў Гродзенскім аблдрамтэатры крытыкаваў з трыбуны генеральнага дырэктара аб'яднання В.Лангова за высокія заробкі. Яшчэ раней Лукашэнка наведваў «Азот», тлумачыў рабочым, што ў іх вельмі высокія заробкі.

З таго часу заробкі істотна зменшыліся. У студзені азотчыкі ў сярэднім атрымлівалі 55 тысяч рублёў, у лютым – 60. Прафкам абмеркаваў праблему заробкаў.

«Узровень жыцця катастрафічна падае, таму мы настойваем на пераглядзе канцэпцыі аплаты працы», – адзначылі сябры прафкама. Яны запатрабавалі павышэння заробкаў да ўзроўню, які гарантуе «годнае жыццё». У якасці прыблізнай лічбы яны назвялі афіцыйна прызнаны мінімальны спажывецкі бюджэт на сям'ю з трох чалавек – 98 тысяч.

21 красавіка з канцэрна «Белнафтахім» прыйшоў адказ. Зыходзячы з фінансавых магчымасцяў, кіраўніцтву «Азота» раілі павялічыць заробкі на 24,6%. Прычым адразу – з 1 красавіка. Намеснік старшыні прафкама Л.Сыраваткіна разачараваная гэтым. Па яе словах, такое павышэнне мала што дасць. Паколькі 98 тысяч на трох чалавек – гэта лічба за снежань. Сёння, каб больш-менш пражыць, трэба яшчэ болей грошай. Аднак яна лічыць, што афіцыйны прафсаюз робіць правільна, патрабуючы рэальнага паляпшэння аплаты працы. (Вядома, што ў сабекошце прадукцыі «Азота» заробкі складаюць фактычна толькі 5%). «Што да прафсаюза незалежнага, дык ён настроены больш радыкальна, але менш рэалістычна», – гаворыць Л.Сыраваткіна.

У свой час Лукашэнка сказаў азотчыкам, каб яны спачатку забяспечвалі ўгнаеннямі родныя калгасы, а потым ужо думалі пра розны там экспарт. Сяўба-99 прынесла прадпрыемству страты – больш за два трыльёны рублёў. Пасля яе заканчэння ўгнаенні ў Беларусі болей не патрэбныя да наступнай вясны, але і за мяжой ужо іх асабліва не прадасі, паколькі на рынках збыту пазіцыі займаюцца з пачатку года. Плюс да ўсяго дзяржава ўвесь час «рэгулюе» цэны на прадукцыю «Азота». Праўда, у лютым іх павялічылі, але адразу вырас курс долара, і становішча прадпрыемства яшчэ больш пагоршылася. «Сістэмы збору падаткаў і валютнафінансавая, якія існуюць у РБ, прыводзяць да таго, што амаль усё ідзе на аплату энерганосьбітаў, сыравіны і складнікаў», – сведчаць спецыялісты «Азота». На новае абсталяванне грошай няма. А старое ўжо зношанае на 77 працэнтаў. Урад выціскае з «Азота» і танныя ўгнаенні, каб ўратаваць калгасную сістэму, і вялікую колькасць валюты на свае патрэбы. Грошай на новае абсталяванне не пакідаецца.

Можа ўрад чакае, што гродзенцы самі адрамантуюць гэты «друкарскі варштат», які прадукуе для рэжыму долары? ■

ЦЭНЫ

# Месяц пачынаецца – «мінімалка» падвышаецца

Міхась КАРПОВІЧ

**З 1 траўня памер мінімальнага заробку зноў будзе павялічаны. На жаль, дакладныя памеры падвышэння пакуль што невядомыя.**

Як паведамляе прэс-служба А.Лукашэнкі, днямі прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын атрымаў даручэнне «падрыхтаваць прапановы па падвышэнні з 1 траўня г.г. мінімальнай заработнай платы, зыходзячы з рэальных магчымасцяў бюджэту».

Мы звязаліся з міністэрствам працы, каб даведацца, наколькі менавіта падымецца «мінімалка». Супрацоўніца ўпраўлення працы і заработнай платы не пажадала прадстаўляцца, але паведаміла нам, што ўжо падрыхтаваныя ажно пяць варыянтаў падвышэння мінімальнага заробку, і цяпер Савет міністраў мусіць вырашыць, які варыянт лепш за ўсё падыходзіць беларускаму бюджэту. Яна не змагла нават акрэсліць межы, у якіх розніцца паміж сабой гэтыя пяць варыянтаў, заявіўшы, што гэта ўсё «канфідэнцыйная інфармацыя» і што пакуль не з'явіцца рашэнне Савета міністраў, ніхто гэтую інфармацыю не атрымае.

Нагадаем, што апошні раз мінімальны заробак падвышаўся 1 студзеня гэтага года – з 1.500 да 2.200 рублёў. ■

# Выбар ёсць: можна быць багатым, можна – бедным

## Нямецкі селянін корміць 108 суайчыннікаў, беларускі калгаснік часта кладзецца спаць галодным. Чаму так?

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Чым больш і лепш чалавек працуе, тым хутчэй расце яго дабрабыт. А з павелічэннем прыбыткаў узрастае патрэба ў вольным ад працы часе, які патрэбен для таго, каб іх скарыстаць. Гэтая агульная заканамернасць, якая выцякае з павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці пры капіталізме пасля Другой сусветнай вайны, ператварыла яго ў так званае спажывецкае грамадства.**

Калі ўзяць за прыклад Германію, то працоўны тыдзень тут скараціўся з 60 гадзінаў на пачатку стагоддзя да 35 гадзінаў напрыканцы яго. Пры гэтым працоўная сям'я з сярэднімі прыбыткамі на харчаванне (а гэта не толькі асабістая кухня, але і рэстараны ды кафэ) выдаткоўвае ўсяго 15% хатняга бюджэту. Больш чым на харчаванне сем'і працоўных выдаткоўваюць на ўтрыманне аўтамабіля (16%) і кватэры (21%). На адукацыю і вольны час выдаткі складаюць 1/10 сямейнага бюджэту. Гэта асноўныя расходныя артыкулы сярэдняй сям'і нямецкага рабочага.

У нас сярэдняя сям'я на харчаванне выдаткоўвае каля 60% усіх грашовых сродкаў, не лічачы таго, што атрымоўвае на дачным участку ці сотках. А ўвогуле болей за палову ўсіх сем'яў, як сведчыць статыстыка, на гэтыя мэты выдаткоўваюць амаль усе свае грошы. Зразумела, што на ўсё астатняе не застаецца амаль нічога.

Могуць сказаць, што ў нас вельмі малыя тарыфы на камунальныя ды іншыя паслугі, нізкая кватплата, але ж не параўнаць па памерах ды ўзроўні камфорту нашае і жытло нямецкага «таварыша па класе». «Камрадам» таксама не знаёмы такія панятцы, як чарга на жыллё ды «канстытуцыйнае» права заняць у ёй сваё месца. Усё вырашаецца высокімі заробкамі. Да таго ж сярэдняя беларуская сям'я амаль нічога не выдаткоўвае на вольны час.

Зразумела, і беднасць, і багацце, калі справа не ідзе аб фізічным выжыванні, гэта рэчы адносныя. Таму спынімся на тым, што грамадства, дзе кожны змушаны займацца сельскай гаспадаркай, каб толькі пракарміць сябе ды дзяцей, мае нулявы ўзровень дабрабыту. І наадварот, тое грамадства, дзе ўсё насельніцтва занятае ў прамысловасці ды сферы паслугаў (але пры гэтым вытворчасць сродкаў для жыцця дастатковая), мае нулявы ўзровень беднасці. Тут, у абсалютным сэнсе слова, беднасць з'яўляецца аматарскай і закранае толькі асацыяльных асобаў.

Таму для такіх краінаў выразы тыпу – «хлеб усяму галава» – зусім не зразумелыя. Якая там «галава», калі, прыкладам, у той жа Германіі доля сельскай гаспадаркі ў фармаванні валавага ўнутранага прадукту складае ўсяго 1,1%. Гэта нашмат меней укладу нашай сельскай гаспадаркі, які ў мінулым годзе склаў амаль 34% ВУП Беларусі.

Так і хочацца сказаць, бедныя немцы! Нам вось і 34% ВУП не хапае, а як яны жывуць на варты жалю той адзін працэнт. Неяк усё ж перабіваюцца, бо (фантастыка!), адзін немец, заняты ў сельскай гаспадарцы, корміць 108 сваіх суайчыннікаў. Гэта ўзровень амаль абсалютнага багацця. У гэтым сэнсе вытворчы патэнцыял нашай сельскай гаспадаркі афіцыйна вызначаецца як 1:10, а з улікам таго, што амаль кожны гараджанін, каб пракарміць сям'ю, паўгода «корпаецца» на лецішчы і таго менш. Гэта ўзровень, які набліжаецца да абсалютнай беднасці.

Ёсць яшчэ і прынцыповая розніца ў падыходах. Заходнія дзяржавы маглі б цалкам адказацца ад усялякай падтрымкі ўласнай сельскай гаспадаркі (што для Германіі той адзіны працэнт ВУП) і ўсё неабходнае купляць на сусветных рынках, але вёска ў постіндустрыяльным, інфармацыйным грамадстве – гэта, у першую чаргу, і, нават, увогуле, не столькі эканоміка, колькі культура. Калі хочаце, храм нацыянальных традыцыяў, першакрыніца нацыянальнага характару, ладу жыцця, гарантыя нацыянальнай саматоеснасці. А для нашых уладаў (гэта таксама традыцыя) вёска — гэта жылая зона вакол кароўнікаў ды свінарнікаў. У нас нават няма аграэканомікі, а ёсць гаспадаранне і гаспадаркі, з якіх дзяржаве трэба выкачваць таннае харчаванне.

Таннае, амаль дармавое. Уласна кажучы, канфіскаваць. А як яшчэ назваць тое, што робіцца, калі на пачатак пасяўной 62% сельскіх працаўнікоў цалкам або часткова не атрымалі заробку за тую прадукцыю, якую нехта ўжо прадаў ды перапрадаў ці даўно з'еў.

Але вернемся да чужога вопыту, да нармальнай рынкавай эканомікі з яе свабоднымі рынкавымі цэнамі. Паколькі гэта цэны раўнавагавыя, складаюцца ў дынаміцы прапановы ды попыту, то яны парытэтныя. Гэта значыць, што ад продажу адзінкі сельгаспрадукцыі прадавец атрымоўвае магчымасць купіць адпаведную колькасць прамысловых тавараў ці паслугаў. Але, як мы ўжо адзначалі, прадукцыйнасць працы ў сельскай гаспадарцы расце хутчэй, чым у прамысловасці, таму цэны на яе прадукцыю зніжаюцца і парытэт парушаецца. Увогуле лічыцца, што калі парытэт існуе на ўзроўні 70%, то ў рынкавай эканоміцы ўзнікаюць катастрафічная перавытворчасць і рост запасаў сельскагаспадарчай прадукцыі. Таму дзяржава, каб захаваць сялянства ад поўнага банкруцтва, уводзіць квоты на памеры вытворчасці, абмяжоўвае, прыкладам, пасяўныя плошчы, кампенсуючы «недавытворчасць» з дзяржбюджэту. Але такім чынам у фермераў з'яўляюцца сродкі для інтэнсіфікацыі вытворчасці, таму памеры зноў павялічваюцца. Гэтая праблема, перавытворчасці, не падлягае канчатковаму вырашэнню.



У нашай сістэме, дзе таксама дзяржава «клапоціцца» пра сялянства, як вядома, наадварот: не падлягае вырашэнню праблема падвышэння вытворчасці да больш-менш прыстойнага ўзроўню. Хоць, заўважце, развіццё аграпрамысловага комплексу ёсць, згодна з афіцыйна ўхваленай канцэпцыяй, стратэгічны прыярытэт. Таму (адчуйце розніцу!) на Захадзе, калі чыноўнік займаецца «рэгуляваннем» вытворчасці, то ён атрымоўвае грошы за тое, што не дапускае яе празмернага росту. У нас жа чыноўнік са скуры вылузваецца, каб знайсці сродак стымуляваць гэты рост, а выніку ніякага. Хоць лічыцца, што ён атрымоўвае свае грошы за шчыраванне на беларускай ніве.

Нашы бліжэйшыя суседзі ў краінах Балтыі ды ў Польшчы, зразумеўшы ўвесь «плён» такога шчыравання, выбралі для сябе заходнюю мадэль. Перш-наперш, далі свабоду вытворцу ў яго распараджэнні выбраненай прадукцыяй па вольных рынкавых цэнах. І адразу на рынку ўстанавілася раўнавага, той самы парытэт, аб якім мараць нашы калгаснікі. Затым цалкам, у адпаведнасці з эканамічнымі законамі, цэны на сродкі харчавання пайшлі ўніз. Былы дэфіцыт змяніўся перавытворчасцю, што паставіла перад уладамі традыцыйныя для рынкавай эканомікі праблемы.

Таму для іх вырашэння прыкладаюцца значныя намаганні. Адно з іх, развіццё перапрацоўчай прамысловасці, сферы паслугаў, таму што заходнія спажывецкія стандарты — гэта не «скварка» з уласна выгадаванай і забітай свінні, не танныя субпрадукты, а «піца па тэлефоне» (дарэчы, танная), ды штотыднёвая паездка ў супермаркет, дзе ўсе прадукты расфасаваныя ці ў выглядзе гатовых, ці як паўфабрыкаты.

Таму што заходнія стандарты выключаюць штодзённыя паходы па крамах у пошуках таго, што сёння «выкінулі». Гэтак жа выключаецца і штодзённае стаянне гаспадыні каля пліты пасля працоўнага дня і гэтак далей.

Таму, уласна кажучы, усе нашыя праблемы зводзяцца да адной, галоўнай. Гэта праблема выбару паміж стандартамі. Калі мы на самой справе хочам адпавядаць патрабаванням наступаючага стагоддзя, то павінны рабіць тое, што і ўсе вакол нас. А калі фантазіі не хапае, тады застанемся са сваёй «чаркай ды скваркай». Жыць мо будзем, але павагі да нас не будзе ніякай.

Сёння, гледзячы на нас, суседзі яшчэ нешта спрабуюць нам падказаць, дапамагчы вопытам і сродкамі. Адно з апошніх памкненняў у гэтым напрамку зробленае па ініцыятыве польскай амбасады ў Мінску. Пад патранажам пасла пана Марыуша Мацкевіча робіцца спробы наладзіць працу Польска-Беларускага форуму па супрацоўніцтве ў галіне сельскай гаспадаркі ды вытворчасці сродкаў для жыцця.

У палякаў ёсць адпаведны вопыт, ёсць, як вынікае з напісанага вышэй, і інтарэс. Ёсць, аб чым сведчыць стварэнне на парытэтных асновах польска-беларускай ініцыятыўнай групы. Працэс, такім чынам, пайшоў. Мяркуецца, што самыя інтэнсіўныя стасункі будуць ствараецца ў беларускім і польскім Прыбужжы. Прынамсі, улады Брэста і Бяла Падляскі ўжо зрабілі заявы на гэты конт. ■

ІНТЭРВ'Ю

# Сбывшаяся мечта

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Татьяна Михалкова — сбывшаяся мечта миллионов девчонок: красавица-модель, работавшая в лучшем Доме моды Советского Союза, вышла замуж за известного режиссера, который стал знаменитым обладателем самых престижных в мире кинонаград, мать троих замечательных детей.**

Сегодня она — президент благотворительного фонда «Русский силуэт». Недавно Татьяна Михалкова приезжала в Минск, чтобы отобрать для участия в конкурсе «Новая Россия - XXI век» лучших молодых белорусских дизайнеров.

***— Когда-то вы работали манекенщицей во Всесоюзном Доме моды на Кузнецком мосту. Потом — семья, дети. Сегодня вы снова вернулись к теме моды. Чем вызван этот поворот в вашей жизни?***

— Политика занимает слишком много места в нашем обществе, а мода как была, так и остается одним из немногих внеполитических явлений. Она не знает границ, объединяет людей самых разных взглядов, помогает найти общий язык. Кроме того, мода — это огромная отрасль, развитие которой может помочь нашей экономике.

***— Долгие годы о вас не было ничего слышно, и лишь в последнее время вы стали появляться на московских тусовках, участвовать в светской жизни...***

— Дети выросли, и у меня, наконец, появилось время. Так и возникла идея создания фонда «Русский силуэт» и конкурса «Новая Россия - XXI век». Сегодня все проводимые в России конкурсы стали коммерческими, за участие в них требуют огромные деньги, что сужает круг участников и их возможности. Наш конкурс носит благотворительный характер, все, что происходит в его рамках, делается бесплатно, даже стажировки за границей в ведущих домах моды, на которые мы посылаем победителей, ничего для них не стоят. В этом году к конкурсу присоединились бывшие республики СССР, он стал международным и обрел статус государственного, потому что вошел в программу мероприятий III тысячелетия, которую подписали Владимир Путин и патриарх Всея Руси Алексий II.

***— Вы — сбывшаяся мечта сегодняшних девочек, известная модель, вышедшая замуж за знаменитого режиссера...***

— Я никогда не ставила перед собою цели стать сбывшейся мечтой, в моей жизни все было удивительно естественно. Что касается того, как чувствует себя «сбывшаяся мечта» сейчас, скажу, что женщине, родившей и воспитавшей в нашей стране троих детей, после этого не страшно уже ничего, даже российский бизнес.

***— Как вы отнеслись к тому, что ваши дочери стали сниматься в кино?***

— Я всегда хотела дать детям хорошее образование, они учились в Швейцарии, Италии, но вернулись в Россию. Я никогда не готовила их к актерской профессии, это их собственный выбор. Анна уже снялась в четырех или пяти фильмах, пошла учиться на юридический, Надежда сейчас снялась у Кеосаяна в фильме «Внучка президента» (он пока еще не вышел на экраны). Свою судьбу они выбирают сами.

***— Что бы вы вложили в понятие «мудрая женщина»?***

— Умение достичь гармонии в себе и в отношениях с окружающим миром, талант радоваться тому, что есть, и не желать того, чего все равно не получишь.

***— Есть ли что-то, чего вам не хватает?***

— Иоанн Златоуст говорил, что человек может быть богатым при бедности своей и нищим в богатстве. Не стоит ставить свою жизнь в очень сильную зависимость от чего бы то ни было — в этом случае мы рискуем стать рабами идей или вещей. А вообще, в жизни всегда чего-то не хватает, и, может быть, это даже к лучшему. Я думаю, что это одинаково плохо: страдать от пресыщения, вызванного тем, что у тебя есть все, чего ты хотел, или же мучиться от невозможности получить желаемое. Нужно научиться жить с тем, что имеешь. ■

# Носители власти

Виталий САКОВИЧ

**В моем подъезде живут несколько бомжей. Они выходят на работу раньше многих, пока во дворе не появилась мусороуборочная машина. Насколько можно судить, наблюдая их утреннюю активность, они, подобно корпорациям и фирмам, придерживаются конвенции о разделе экономических территорий — никто не смеет посягать на чужой помойный контейнер. К нарушителям конвенции применяются меры физического воспитания, и, если судить по фингалам, которыми часто украшены лица моих соседей, и их коллег, конкурентная борьба в этой сфере производства часто бывает жестокой.**

Раньше я полагал, что чистильщики выискивают в контейнерах только стеклотару. Оказалось, что я ошибался. Днем, после первой смены, они сидят в беседке, попивая честно заработанное вино. В такую минуту, как и все славяне, они способны на откровенность. В такую минуту я узнал (привожу дословно), что «сейчас развелось много богатой сволочи, не жалеют вещей, выбрасывают такое, чему служить и служить. Какая-то гадина выбросила штук сто кассет с музыкой. Теперь с женой слушаем». Магнитофон для прослушивания был также возвращен к жизни из мусорного контейнера. Но «бутылок становится меньше. Четыре года назад было больше, теперь сами сдают. Народ обеднел. Обокрали эти на мерседесах». У них все новое, евроремонты, интерьеры, как в кино. Недавно Ленина в ящике нашли, сорок пять томов. Вообще книги сотнями. Зажирели. Где-то с голоду мрут, а тут бесятся». С добрым чувством вспоминают последние выборы — возле участка собрали «тьму бутылок, хватило на два дня». Поэтому пойдут и на следующие. Естественно, активно участвовали в Конституционном референдуме, отдали свои голоса за поправки, предложенные президентом. Очень понравились первые строчки, которые сообщают, что главным носителем власти в РБ является народ, то есть и они — бутылкоискатели, и министры, и Лукашенко, и колхозники, и участковый. Все равны, все вместе носители власти.

Хуже, что непьющие и работающие аналогично не отягощают себя раздумиями о том, что и кому они несут.

Наши дворовые чистильщики теперь ждут следующего референдума. По их прогнозам, осенью их призовут высказать свою точку зрения о нужной нам системе выборов — прямой или по партийным спискам. Они — за прямые. Ибо, как повторяют они вослед за дикторами телевидения, «народ должен знать в лицо тех, кого выбирает». А «все словесной трансформации (фокус с горошиной под наперстком) десятки тысяч людей в состоянии экзальтации оказываются вершителями собственной и чужих судеб. Сиюминутные эмоции получают статус общенародных воззрений. И рационально думающие граждане оказываются заложниками иррационалов (абстрактных носителей власти).

В Западной Европе традицию референдумов создали швейцарцы, она им нравится,



Фота Ул. ШЛАПАКА

Всякий раз, когда вижу, как полноправный гражданин и конституционный носитель власти, распугивая котов, запускает руку в мусорный контейнер, я невольно задаюсь вопросом: почему его голос на выборах и референдумах равен голосу доктора юридических наук, врача, учителя, фрезеровщика, любого, кто работает, думает, создает? Дело не в том, что таких пьющих бомжей, приписанных к определенному помойному баку, относительно мало. Да и что можно против них сказать. Каждый сам кузнец своего счастья и своей профессии. Нет закона, который запрещает добывать сырье из мусора.



программы не прочтешь. И навряд на бумаге».

Такая же информация поступает множеству людей, которые живут в секторе, обеспеченном проводным радио и программой БТ. Их, как помнится, старательно призывали высказаться по вопросам Конституции, государственности языка, который звучит для них по российским телеканалам, частной собственности на землю и т. п. А еще раньше — по вопросу необходимости сохранения СССР. Многие хотели, чтобы СССР сохранился, а сейчас им хочется — чтобы этот феникс возродился из пепла. Им кажется, что к этому идет — Лукашенко и Путин восстановят. Так их убеждают газеты, радио и ТВ. «Раньше нас боялись. Нас должны бояться опять». Почему кто-то должен их бояться? Потому что хотят (американцы, NATO) захватить наши земли и эксплуатировать нашу рабочую силу (не дадут лезть в помойки?).

Затем такие чувства правительственные СМИ трактуют как взгляды, то есть как плоды долгих осмыслений действительности и размышлений о жизни и над проблемами.

С помощью столь простой уже 150 лет они решают многие вопросы путем опросов населения. В других странах референдумы используются в основном при необходимости обдурить народ. Перед референдумами пропаганда разжигает определенные по направлениям любовь и ненависть, и большинство из тех, кто не пропускает случая отметиться на участке (50—60% электората), высказывают свою ненависть или любовь, полагая, что высказывают свои мысли или идеи.

Нас в этом отношении еще ожидают неприятности. Особенно в тех случаях, когда идея очередного референдума исходит из правительственных структур или проправительственных образований. Это означает, что там созрела мысль очередного финта, который потребует ссылок на большинство.

Демократия отличается от монархии тем, что власть выбирают не пожизненно, а на короткий срок (у нас на 5 лет). И в тот единственный день пятилетки, когда власть действительно принадлежит народу, не стоит уклоняться, уступая место тем, кто голосует, набравшись эмоций из книг, отысканных в помойной яме, и из телевизора. ■

АДУКАЦЫЯ

# «Народны альбом» у ліцэі

Ірына ТОЎСЦІК

**Прэм'ера мюзікла «Сцэны з народнага альбома» адбылася 24 красавіка ў Беларускім дзяржаўным гуманітарным ліцэі імя Я.Коласа пад кіраўніцтвам дырэктара гэтай установы Ул. Коласа.**

Як вядома, сцэнар «Народнага альбома» ствараўся Лявонам Вольскім і Міхалам Анемпадыставым паралельна з песнямі некалькі гадоў таму. Калі «Народны альбом» прэзентаваўся і за мяжой, і на Беларусі, то жыццё п'есы нібыта было скончанае пасля друкавання ў «Нашай ніве» пачатку сцэнару. Але дзякуючы намаганням сп. Ул.Коласа п'еса ажыла на ліцэйскай сцэне, няхай сабе і з пэўнымі зменамі і скарачэннямі. На прэм'еру завітаў і адзін з аўтараў п'есы М.Анемпадыстаў, які напрыканцы імправізаванай вечарыны слушна зазначыў наконт ліцэйскіх талентаў: «Цяпер ёсць надзея, што беларуская тэлестудыя не будзе запрашаць актораў з Прыбалтыкі, бо мае сваіх». Парадавала навучэнцаў сваёй прысутнасцю сярод гледачоў Кася Камоцкая (гурт «Новае неба»).

Але звярнемся непасрэдна да прэм'еры. Як сказаў рэжысёр, а ён жа дырэктар, пры падрыхтоўцы п'есы не было складак на тое, што ўдзельнікі яшчэ дзеці, дамінавала прафесійнае стаўленне. Акторамі былі навучэнцы як з першага, так і з другога і чацвёртага курсаў. Здзівіла іх упэўненасць трымання сябе на сцэне, нездарма праводзіўся адбор па ўзроўні таленту. А чаму выбар быў спынены менавіта на гэтай, даволі малавядомай п'есе, здагадацца няцяжка. «Гэта найбольш жывы твор з сучаснай драматургіі, які закранае струны беларускай душы», — сказаў Ул. Колас. ■

ПОШТА

***Добрый день, уважаемая редакция!***

Обращается к вам ваш давний читатель. Вчера с радостью обнаружил в почтовом ящике ваш конверт с газетой НАША СВАБОДА. За это хочется поблагодарить. Замечательно, что Вы снова выходите, что Вам хватило сил возродиться, что Вы не забыли о своих читателях. Но что дальше? Наверно, надо наладить какую-то форму распространения газеты, допустим, один из вариантов альтернативной подписки, пока нет возможности использовать централизованную подписку по почте; а может статься, что и не будет ввиду значительного удорожания стоимости почтовых услуг для негосударственных печатных изданий. На сеть киосков «Белсоюзпечати» то же надежда слабая. У нас в Борисове без особых проблем из республиканских независимых газет можно купить только «Народную волю». Другие издания, если и заказываются, то в крайне малых количествах. Поэтому читатели, особенно в провинции, ждут гарантированной доставки газеты.

Скажу про свое отношение к вашей газете. Здесь я имею ввиду НАВІНЫ, СВАБОДУ и НАШУ СВАБОДУ вместе. Ниша серьезной, политической, белорусской по духу и, при этом, тонкой газеты без Вас остается незанятой. Ближайшие «конкуренты» грешат пустословием, мелкотемьем, развлекательным уклоном. В целях финансовой выживаемости они ориентируются на широкие читательские слои, пытаются охватить необъятное. Отсюда эклектика, тематический разброс в структуре газет, поверхностность содержания. В них и политика, и культура, и спорт, и развлечения, и еще многое другое. Но все на неглубоком, обывательском уровне. Серьезного читателя такой подход не может удовлетворить. Как, в свое время, тот, кто предпочитал читать «Известия», вряд ли был одновременно и подписчиком «Труда». Разные это были газеты. Так и здесь. После того, как НАВІНЫ были закрыты, я так и не нашел для себя издание, способное заменить их в полной мере. Сейчас выписываю «Свободные новости» и, в первую очередь, из-за статей Анатолия Козловича, которого я давно уважаю за его честность и талант. Поэтому, теперь я буду надеяться на то, что наша связь с НАШАЙ СВАБОДАЙ не прервется, а, наоборот, мы ее только укрепим.

**Н. В. ГАВРИЛЕНКО,**
**Борисов**

КУЛЬТУРА

# Вяртанне метрыкі ВКЛ

Марат ГАРАВЫ

**«Цывілізацыя Метрыкі» — так называлася акцыя, прысвечаная Метрыцы Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і аднаўленню яе выдання ў Беларусі, якая прайшла ўвечары 25 красавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску.**

Мерапрыемства арганізавалі вучоныя Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Алег Дзярновіч, Валерый Мянжынскі і Уладзімір Свяжынскі. Самой назвай акцыі яны хацелі падкрэсліць, што Метрыка, як збор матэрыялаў канцылярыі ВКЛ XV-XVIII стагоддзяў, з'яўляецца самай поўнай крыніцай па эканамічнай і палітычнай гісторыі гэтай сярэдневяковай дзяржавы. Удзел у акцыі ўзялі вучоныя, студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта і супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі.

Падчас сустрэчы ў бібліятэцы адбылося адкрыццё кніжнай выставы, прысвечанай Метрыцы ВКЛ. На ёй прадстаўлены сучасныя выданні гэтага зводу дакументаў, якія выйшлі ў Літве і Беларусі; рарытэтныя тамы Метрыкі XIX стагоддзя, выдадзеныя ў Расіі; айчыннае археаграфічнае даследаванне Метрыкі, падрыхтаванае Зміцерам Даўгялам у 1928 годзе. Акрамя гэтага, экспануюцца працы айчынных і замежных даследчыкаў па розных праблемах гэтага 662-томнага збору.

Нагадаем, што нядаўна ў мінскім выдавецтве «Атэнеум» выйшаў 28-ы том Метрыкі, які прадстаўляе розныя аспекты сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця Вільні, Мінска, Полацка, Оршы, Мсціслаўя і Кіева ў перыяд 1522-1552 гадоў. ■

СПОРТ

# Чэмпіянат свету. На што спадзявацца?

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі ў групе «А», што стартуе заўтра ў «паўночнай сталіцы» Расіі горадзе Санкт-Пецярбургу, нацыянальная каманда Беларусі ў мацнейшым складзе правяла ў Мінску, у Палацы спорту пры поўных трыбунах дзве таварыскія гульні з нацыянальнай камандай Аўстрыі, таксама адным з удзельнікаў чэмпіянату.**

На момант падпісання газеты ў друк быў вядомы вынік толькі першай гульні. У ёй беларусы мелі адчувальную гульнявую перавагу і перамаглі з лікам 4:1. Аўстрыйцы забілі першыя, але затым нашы поўнасцю авалодалі ініцыятывай і давялі гульню да лагічнага завяршэння. Матч праходзіў у настолькі жорсткай барацьбе, што па некалькі разоў за перыяд на пляцоўцы ўспыхвалі бойкі паміж ігракамі каманд-саперніцаў. У выніку дзесяць гульні выбачэнне «таварыская» было проста немагчыма. Дайшло да таго, што патасоўка ўзнікла нават па заканчэнні гульні, калі гледачы ўжо пачыналі разыходзіцца. А пасля традыцыйных развітальных рукапоціскаў аўстрыйскія хакеісты выцягнулі рукі аб лёд, як бы паказваючы сваю гідлівасць у адносінах да беларусаў. Цікава, што ж было ў паўторнай гульні? Магчыма, балельшчыкаў чакала сапраўднае лядовае пабоішча!

А на чэмпіянаце свету першы матч нашых адбудзецца ў нядзелю са зборнай суседняй Украіны. Таксама ў групе з намі зборныя Швецыі і Латвіі. Дзве лепшыя каманды з кожнай групы выходзяць у наступную стадыю спаборніцтваў. Пажадаем нашым хакеістам паспехаў у Санкт-Пецярбургу! ■



Фота Ул. ШЛАПАКА

Аўстрыйскі варатар Дзівіс праводзіць шайбу ў вароты

# Нашым хакеістам «не шанцуе»

Алесь ШМЯЛЁЎ

Усе гульні прайгралі беларускія хакеісты на чэмпіянаце свету сярод юніёраў, што праходзіць зараз у Швейцарыі. Прычым усе прайгралі з буйным лікам. Апошнія дзве паразы ад камандаў Германіі (0:10) і Украіны (3:8). Усяго беларусы забілі толькі 6 шайбаў, затое прапусцілі больш за пяцьдзесят! Зразумела, што з такімі вынікамі ў сусветнай эліце нам рабіць проста няма чаго, і ў 2001-м беларусы апусцяцца на ўзровень ніжэй. ■

# Эротические божества и знаменитости

Игорь ИГРИЦКИЙ

**Авторитетные демонологи полагают, что не все дьяволы или демоны связаны с сексом. Иногда один колдун может причинить вред другому с помощью своего демона, поэтому и возникает вопрос: как один демон может одолеть другого? Считается, что среди демонов, как и среди ангелов, существует иерархия. Очевидно, следует коротко упомянуть главных, наиболее известных демонов, имеющих отношение к человеческой сексуальности.**



У североамериканцев свои божества любви

По мнению некоторых, первым инкубом (демон, принимающий вид мужчины-соблазнителя) был Пан. Первым суккубом (демон в женском обличии) – Лилит. Возможно, по старшинству эта пара возглавляет все полчища инкубов и суккубов.

Лилит считают повелительницей суккубов. Существует мнение о том, что она аккадского происхождения, и там ее имя звучит как Джелал или Кель-Джелал.

Велиал, которого иногда именуют Духом Зла, возглавляет демонов, чья роль – побуждать людей к греху, в том числе – к совокуплению и к сексуальным извращениям. Говорят, что это он развратил людей городов и равнин, именно он внушил жене фараона Потифара нечестивую страсть к Иосифу Прекрасному.

Иногда Велиала отождествляют с самим Сатаной, но чаще считают одним из повелителей Сатаны. Ему суждено гореть в вечном огне во время второго пришествия Христа.

В некоторых случаях путают Велиала и Велиара, хотя Велиар, как считают, имеет власть над мужчинами и женщинами только тогда, когда они охвачены похотью.

Асмодей, царь демонов и, по древнееврейской легенде, супруг Лилит, считается демоном, повергающим людей в смертный грех разврата. В книге «Молот ведьм» о нем написано так: «Но самый демон совокупления, повелитель этой мерзости, носит имя Асмодея; совершившие этот грех понесли страшное наказание в Содоме и четырех других городах. Демон гордости именуется Левиафаном... Демон же алчности и богатства зовется Маммон».

Именно демон совокупления, Асмодей, любил Сарру, дочь Рагуила, и в ярости и ревности убил поочередно семерых ее женихов, каждого в свадебную ночь, прежде чем тот успел возлечь с нею.

Сарра в отчаянии решает лишить себя жизни, но затем возносит молитву Господу, и он посылает ангела Рафаила связать Асмодея и дать Сарру в жены Товии, сыну Товитову.

Следует добавить, что Асмодей, очевидно, был связан не очень крепко, потому что вскоре оказался снова при деле, творя очередное зло. В христианской демонологии он, как правило, обладает меньшей властью, чем в иудейской; сфера его деятельности – плотская страсть.

В соответствии с положениями школы демонологии, считающей Люцифера властителем и Астарота князем Ада, Сатана является повелителем, чье назначение – соблазнять и развращать женщин и девушек. Его главные помощники – Пруслас, Аамон и Барбатос, подчинен ему и Сидрагам, чья задача «ввергать женщин в безумство страстей при помощи танца».

Не только падшие ангелы, превратившиеся в демонов в легионах Ада, вступают в половую связь с людьми. В числе прочих Тертуллиан свидетельствует, что падшие ангелы христианского Бога иногда принимали человеческий облик, чтобы совокупляться со смертными. В апокрифах тоже содержатся упоминания о таких ангелах.

В «Книге Еноха» Бог посылает двух ангелов, Азазля и Уззу, на землю – посмотреть, могут ли они совратить род человеческий, ввергнув его в соблазн похоти. Но вместо этого сами ангелы впали в соблазн, почувствовав плотскую страсть к земным женам, и Бог покарал их. Азаэль оказался виновен еще и в том, что научил женщин раскрашивать лица.

Каббалисты называют довольно большое число ангелов, имеющих отношение к человеческой сексуальности. Среди них Аниэлъ и Анаэль, Рачиэль и Сачиэль, Саработ и Амабиэль, Абалидот и Флаиф. Каббалисты добавляют, что наряду с ангелами добрыми существуют грешные, которых не следует путать с демонами. Среди них Ишет Земунин, Ангел Проституции, жена Самаэля – ангела Яда и Смерти.

Демоны, которые сексуально связаны со смертными, поощряют распутство и извращения, покровительствуют различным формам сексуального поведения, во многих случаях служат заменой богов, раньше выполнявших эти функции и продолжающих выполнять их у язычников. Поскольку подобные боги не что иное как демоны – по мнению большинства самых авторитетных мыслителей-демонологов, – следует упомянуть их здесь, хотя и очень малую часть. Как и остальные демоны, некоторые из них являются покровителями человеческой сексуальности и сексуальной практики, часть принимает участие в эротических актах с людьми. Некоторые занимаются и тем, и другим, но в таком случае какая-то из этих ролей для них является преобладающей.

В Персии, Скифии, Армении и Лидии любви и сексуальным культурам покровительствовала богиня Анаит. Юные девушки занимались в ее честь проституцией. Ее двойник мужского пола в отношении покровительства сексуальным культам – скандинавское божество Ярило, бог плотских утех.

В Египте богиня-кошка Баст, или Бастет, считалась также покровительницей сексуальной любви. Египетским божеством – или полубогом, – тесно связанным с инкубами, был Бэс, отталкивающего вида Карлик, который приносит спящему нежнейшие эротические видения, защищая его (или ее) от кошмаров и других неприятных явлений. Говорят, он до сих пор живет у южных ворот Карнака. Иногда он приходит в ярость и душит тех, кто отваживается насмехаться над его безобразным телом и отвратительным лицом.

Бафорет – андрогинное божество, которое иногда считается покровителем гомосексуализма. Это очень древнее божество, и неоднократные попытки выяснить его происхождение были безрезультатны.

Эрота, бога любви, часто смешивают с Приапом, богом фаллоса, богом-пенисом. Считается, что подлинный Приап был человеком, отличавшимся мужественностью и размерами фаллоса, впоследствии обожествленным. Приапа часто отождествляют с Дионисом.

Дионис – сельское божество, достигшее высот Олимпа. Дионис – бог-покровитель плодов, цветов и вина. Культ Диониса сопровождается оргиями и различными ритуалами, и один из его символов – фаллос, «дерево без ветвей».

Фриза (Фригга, или Фрида) – скандинавская богиня любви, днем которой считается пятница, что объединяет ее с Венерой.

Покровительницей гомосексуализма была Венера Кастина. Различаются еще несколько Венер, среди них Покровительница жен, Покровительница девушек, Покровительница проституток.

Богиня любви, которую римляне называли Венерой, обнаруживается почти у всех народов древнего мира. Правильнее было бы определить ее как богиню желания, или страсти. У вавилонян это была Иштар, у египтян – Исида, у греков – Афродита. Однако ни в коей мере не следует считать, что они одинаковы, а различаются только по именам. У каждой свое происхождение, своя индивидуальность.

Другие сексуальные боги римлян и их функции: Югатинус – держит вместе мужа и жену; Стимула – зажигает огонь желаний в мужчине, а Стрения – дает силу осуществить эти желания.

Таков обширный пантеон демонов, вызывавший у древних священный ужас, смешанный с почитанием. От их магических чар зависела человеческая сексуальность, по мнению наших прародителей. И вовсе не факт, что их порочное влияние полностью исчерпано в современном мире. Не даром так популярны в наши дни колдуны, гадалки и ворожеи. Большинство их пытаются установить контакты с темными силами преисподней. Известно, что как правило только тем, кто верит в демонов, они и являются. ■

СВЕТ ТАЯМНІЦЫ

# Во имя всеобщего мира индийский йог искупался в кипящем масле

На глазах тысяч людей, скандирующих имя бога: «Шива! Шива!», индуистский отшельник по имени Раджан в штате Тамилнад совершил купание в кипящем топленом масле.

Свой заплыв в пузырящемся составе он посвятил «укреплению мира во всем мире и гармонии между жителями Земли». В доказательство искренности своих помыслов сидевший в огромном медном чане с кипящим маслом обнаженный йог с заметным удовольствием вместо мыла натерся с ног до головы куском раскаленного угля, выхватив его из полыхавшего под котлом костра.

«Необычное купание» Раджана продолжалось довольно долго. Герой дня продемонстрировал присутствующим свою готовность пойти на все ради «всеобщего мира», а заодно и показать свои чудесные способности из разряда «ни мороз мне не страшен, ни жара, удивляются даже доктора».

После «купания» врачей к красному, как рак, йогу его восторженные сторонники не допустили. По их словам, Раджан перенес испытание в кипящем масле вполне нормально. Это же подтвердил вскоре и он сам, сообщив, что такое проделывает уже в восьмой раз. «Кудесник», правда, признал, что при этом он испытывает ощущения, которые далеки от приятных. Но ради укрепления мира во всем мире он снова готов повторить омовение в кипящем масле в ближайшие дни.

Билетов на новое представление не предусмотрено, и поэтому всякий желающий сможет сам убедиться, на что способен Раджан и в его лице остальные индийские йоги.

**ITAR-TASS**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1769 Нумар падпісаны ў друк 27/04/2000 (15:00) Наклад — 7.850